БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

17 лістапада 1994 г.
Чацвер
№ 123 (13840)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года


У НУМАРЫ:





Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА

## Кур'ер "ЧЗ"

### Галалёд як стыхійнае бедства

*Бездапаможнай аказалася напярэдадні зімы дарожная служба гарадской гаспадаркі сталіцы рэспублікі.*

Нягледзячы на папярэджанні метэаролагаў аб тым, што хутка будзе галалёд, яна не змагла забяспечыць раніцай 15 лістапада рух пасажырскага транспарту. Дзесяткі тысяч чалавек лаючыся і нервуючыся, вымушаны былі гадзінамі дабірацца ў цэхі родных прадпрыемстваў, установы.

Цяжка, ды і немагчыма, бадай, з усёй дакладнасцю вызначыць велічыню страт з-за прастояў станкоў і механізмаў, несвоечасовага прыняцця рашэнняў, як нельга пакуль падлічыць колькасць траўм і ўстанавіць ступені іх цяжкасці.

### Цэны цаной у 100 мільёнаў

*У такую суму вылілася для дзяржавы ўтаймаванне аптова–розанічных цэн на шэраг харчовых тавараў і вяртанне іх на ўзровень 1 лістапада. Аб гэтым было паведамлена на прэс–канферэнцыі кіраўніка ўрада Міхаіла Чыгіра і яго намеснікаў Сяргея Лінга, Уладзіміра Гаркуна і Віктара Ганчара.*

На думку Міхаіла Чыгіра, з'яўленне вядомага ўказа прэзідэнта выклікана перш за ўсё апераджальным ростам кошту тавараў над узроўнем сярэдняй заработнай платы і выдзеленай кампенсацыі. Каб зменшыць гэты разрыў, з мінулага панядзелка цэннікі ў магазінах зноў змяніліся. Напрыклад, хлеб "Беларускі" цяпер каштуе 460 рублёў замест 503, батон "Звычайны" зменшыўся ў цане з 624 да 571 рубля, а паўкілаграма малочнай сумесі "Малыш" — з 2180 да 1499 рублёў. Кілаграм смятаны 20-працэнтнай тлустасці ацэнены ў 2230, а тварагу — у 1652 рублі. Зніжэнне цэн, хоць і нязначнае, закранула амаль 100 назваў тавараў першай неабходнасці.

### А тым часам...

*Літаральна штотыднёва зніжаецца пакупніцкая здольнасць гамяльчан.*

Апошнія статыстычныя звесткі сведчаць, што нават у параўнанні з мінулым далёка не заможным годам спажыванне мяса і каўбасных вырабаў паменшылася амаль напалавіну, цукру — на 42 працэнты, рыбных кансерваў — на 60. На леташнім узроўні, і нават трошкі вышэй, трымаецца толькі спажыванне гарэлкі.

### Пагалоўе змяншаецца

*Паводле звестак абласнога ўпраўлення статыстыкі, аб'ёмы прадукцыі жывёлагадоўлі на Брэстчыне працягваюць змяншацца.*

За дзесяць месяцаў бягучага года, у параўнанні з летнім перыядам, закупкі жывёлы і птушкі скараціліся на 20, а малака — на 16 працэнтаў. За гэты ж час больш чым на 77 тысяч зменшылася пагалоўе буйной рагатай жывёлы і на 12 тысяч галоў стала менш свіней.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Візіт у Амерыку

*У Вашынгтоне знаходзіцца дэлегацыя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на чале з М.І.Грыбам, якая прыбыла для ўдзелу ў 40–й сесіі Асамблеі Паўночнаатлантычнага саюза.*

Пасля першага дня работы юбілейнай сесіі Асамблеі НАТО дэлегацыя беларускіх парламентарыяў была прынята намеснікам міністра абароны ЗША Э.Картэрам. Перад сустрэчай кіраўніка дэлегацыі М.Грыба вітаў міністр абароны У.Пэры.

У ходзе размовы з Э.Картэрам было абмеркавана кола пытанняў супрацоўніцтва па праграмах Нана-Лугара, скарачэнню звычайных узбраенняў, занятасці вучоных, супрацоўніцтва па лініі "ваенныя-ваенным". Раніцай 16 лістапада М.І.Грыб вылецеў у Нью-Йорк.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

### Ці адолеем беспрацоўе?

*У Мінску прайшла нарада кіраўнікоў цэнтраў занятасці насельніцтва.*

Паводле падлікаў спецыялістаў, да канца наступнага года колькасць беспрацоўных у рэспубліцы наблізіцца да 190 тысяч, што складзе 3,4 працэнта працаздольнага насельніцтва. Пра тое, як дапамагчы гэтым людзям, і вялі размову арганізатары нарады, сярод якіх — Федэрацыя прафсаюзаў, Рэспубліканскі навучальны цэнтр перападрыхтоўкі вайскоўцаў, Беларускі навукова-даследчы інстытут працы. У сустрэчы прынялі таксама ўдзел прадстаўнік Еўрапейскай Супольнасці і рэктар навучальнага цэнтра Федэральнай службы занятасці Расіі.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

### Зноў аварыя ў Наваполацку

*Па Наваполацку папаўзлі чуткі пра аварыю на аб'яднанні "Палімір", прычым самыя неверагодныя...*

У сувязі з гэтым намеснік галоўнага інжынера прадпрыемства Васіль Сцяпановіч даў тлумачэнні. На ўстаноўцы па вытворчасці акрыла-нітратылу сапраўды з-за карозіі разгерметызаваўся трубаправод, адбылася ўцечка ў абвалоўку ёмістасці воднага раствору, які ўтрымлівае акрыла-нітрыл і сінільную кіслату. Вядуцца работы па ліквідацыі аварыі. Паводле слоў прадстаўніка прадпрыемства, небяспекі для калектыву аб'яднання, а тым болей для жыхароў Наваполацка няма.

**Уладзімір МІХНО.**

### "Ака" з беларускай прапіскай

*У пачатку лістапада ў Гродна на заводзе карданных валоў сабраны першы аўтамабіль "Ака".*

Плануецца, што да канца года будуць атрыманы першыя 5 машын.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

### Трагедыя можа паўтарыцца

*14 лістапада ў Беларускай акадэміі музыкі прайшло сумеснае пасяджэнне прафкама, рэктарата, прадстаўнікоў Міністэрства культуры і студэнтаў гэтай навучальнай установы. Як вядома, 25 кастрычніка ў інтэрнаце Акадэміі адбылася жудасная трагедыя — загінулі ў агні два студэнты. Іх калегі адзначылі, што такое здарэнне — не выпадковасць.*

Кепская работа гаспадарчых службаў інтэрната непасрэдна паўплывала на трагедыю: вогнетушыцелі не працавалі, у аварыйным стане знаходзілася электраправодка, ваду даявлося насіць у руках. Гучала шмат нараканняў у адрас каменданта інтэрната, што на Старавіленскай, 56. Хто мае рацыю, вінаватыя — вырашаць следчыя органы, вось толькі жыццяў двух маладых людзей ужо, на жаль, ніхто не верне.

**Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.**

### Курсы валют на 16 лістапада:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 7120 | 7350 | 4628 | 4862 |
| "Алімп" | 7140 | 7350 | 4713 | 4868 |
| "Дукат" | 7100 | 7350 | 4650 | 4850 |


Якое наша жыццё...

Фота Сяргея БРУШКО.

## ПРАВА ІНДЭКС СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН

### ПРА ІНДЭКС СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН за кастрычнік 1994 года

Дзяржаўны Камітэт па статыстыцы і аналізу паведамляе, што ў кастрычніку ў параўнанні з вераснем 1994 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 125,7 працэнта ў адносінах да моманту папярэдняй індэксацыі — 242 працэнты. У параўнанні са снежнем 1993 года цэны на спажывецкія тавары і паслугі ўзраслі ў 11,2 раза.

**Дзяржкамстат Рэспублікі Беларусь.**

***КАМЕНТАРЫЙ***

***да паведамлення Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь пра індэкс спажывецкіх цэн за кастрычнік 1994 года***

У сувязі з апублікаваннем індэкса спажывецкіх цэн за кастрычнік 1994 года Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь паведамляе, што грашовыя даходы насельніцтва за кастрычнік, атрымліваемыя з бюджэтных крыніц (сацыяльныя пенсіі, дапамогі, стыпендыі, заработная плата і грашовае забеспячэнне), падлічаны нарастаючым падрахункам да ліпеня бягучага года — 242 працэнты (1, 534 x 1,255 x 1,257 x 100), з прымяненнем пераменнай шкалы нарматываў індэксацыі на кожны працэнт росту індэкса спажывецкіх цэн для розных частак даходаў:

у межах 20000 — 1 працэнт,
ад 20001 да 40000 рублёў — 0,5 працэнта.

Частка даходаў, што перавышае 40000 рублёў не індэксуецца.

Выплаты па пакрыццю ўрону, выкліканага калецтвам ці іншым пашкоджаннем здароўя, звязанымі з выкананнем працоўных абавязкаў, індэксуюцца асобна ад іншых даходаў, незалежна ад таго, прадугледжана ці не прадугледжана такое палажэнне ў калектыўным дагаворы (пагадненні).

Грашовая кампенсацыя ў сувязі з увядзеннем свабодных цэн на хлеб, малако і малочныя прадукты, дзіцячае харчаванне, устаноўленае пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 жніўня 1994 года нумар 3 "Аб мерах па аказанню фінансавай падтрымкі асобным катэгорыям грамадзян", індэксацыі не падлягае.

Насельніцтву, якое атрымлівае даходы з іншых крыніц, пакрыццё страт ад інфляцыі ажыццяўляецца на падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі).

**Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь.**

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

### АПАЗІЦЫЯ НЕ АДВЯРГАЕ ІМПІЧМЕНТ

Учора па ініцыятыве апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце адбылася прэс-канферэнцыя. Яе мэтай арганізатары назвалі імкненне выказаць свой погляд, свае ацэнкі на падзеі ў рэспубліцы.

Як вядома, у прэсе ўжо была надрукавана заява апазіцыі БНФ у адносінах да ста прэзідэнцкіх дзён. На сустрэчы з журналістамі лідэр БНФ Зянон Пазьняк, каардынатар БНФ Сяргей Навумчык і дэпутат ад апазіцыі Юрась Беленькі больш падрабязна спыніліся на сітуацыі ў Беларусі.

У прыватнасці, З.Пазьняк адзначыў, што, на яго думку, апошнія два тыдні палітычнага жыцця дзяржавы характарызаваліся дзвюма важнейшымі падзеямі. Першая – гэта абмеркаванне на сесіі Вярхоўнага Савета "Закона аб выбарах". Як падкрэсліў лідэр БНФ, у законе засталося некалькі палажэнняў, якія яшчэ будуць разглядацца парламентам, але ўжо зразумела, што выбары пройдуць па мажарытарнай сістэме, якая выгадная выканаўчай уладзе. "Я не сумняваюся, – заўважыў З.Пазьняк, – што закон будзе прыняты ў тым выглядзе, у якім прынята большасць яго артыкулаў. Гэта сведчыць аб тым, што выбары будуць даволі цяжкія, бо для выканаўчых структур улады прадастаўляецца вялікая магчымасць націску на выбаршчыкаў, уздзеянне на выбары каманднымі сродкамі, магчымасць фальсіфікацыі іх вынікаў."

Другой важнай падзеяй апошняга тыдня З.Пазьняк назваў "чарговы раунд" безадказных, папулісцкіх заяў прэзідэнта, якія апазіцыя расцэньвае, як сведчанне таго, што настае час імпічменту прэзідэнта. Некаторыя выказванні апошняга названы адкрытым выступленнем супраць суверэнітэту Беларусі.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі нагадалі, што за чатыры месяцы пасля выбрання прэзідэнта паскорыўся развал эканомікі, дасягнула больш высокага ўзроўню сацыяльная напружанасць і інфляцыя, адсутнічае барацьба з карупцыяй, праграма першапачатковых мер, прынятая два месяцы назад, не працуе. На эканамічнай сітуацыі і пазіцыі ў адносінах да яе БНФ больш падрабязна спыніўся Юрась Беленькі.

Якія ж крокі мае намер зрабіць апазіцыя ў бліжэйшы час? Каардынатар БНФ Сяргей Навумчык адзначыў, што іх фракцыя ўжо выйшла ў адпаведную камісію Вярхоўнага Савета з праектам пастановы аб утварэнні назіральнага савета. Гэта звязана з тым, што падпарадкаванне Дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі аднай толькі выканаўчай уладзе немэтазгодна. Апазіцыя будзе таксама ўносіць свае папраўкі ў праект Закона "Аб сродках масавай інфармацыі" Фракцыя звярнулася асабіста да прэзідэнта з тым, каб 28 лістапада працягласцю ад 21 да 23 гадзін ёй быў прадастаўлены эфірны час у межах 45 мінут для прамога эфіру. "Але, – як падкрэсліў С.Навумчык, – выйсце з сітуацыі нам бачыцца пры дапамозе палітычных спосабаў, шляхам правядзення парламенцкіх выбараў. Цяпер апазіцыя вядзе актыўныя кансультацыі са сваімі магчымымі партнёрамі на выбарах па дэмакратычнаму блоку".

На прэс-канферэнцыі яе арганізатарам было зададзена пытанне: ці магчымы ў рэспубліцы сацыяльны выбух? На што З.Пазьняк адказаў: "Я не ацэньваю сітуацыю як выбухованебяспечную. Яна можа быць больш цяжкай: сітуацыя псіхалагічнага падаўлення грамадства, нявер'я ні ў што і пакора любому зыходу падзей, што можа прывесці да таталітарнага рэжыму, аўтарытарызму. Гэта самае небяспечнае."

**Вольга ШАЎКО.**


Нагадваем: кошт падпіскі на "Чырвоную змену" – 6000 рублёў.

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63129 (індэкс выдання)

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар

на газету 63129 (індэкс выдання)

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

| Кошт | падпіскі | ____рублёў. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____рублёў. | | |

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)


## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "Еўраньюс" — "TV-5"



*Дзяжурныя па выпуску*
*перакладчык*
*Ларыса ДУДАРУК,*
*Людміла КАХАВЕЦ,*
*рэдактар*
*Наталля ВАЛАКІДА.*

### ЧЭХІЯ – НА ПАРОЗЕ ЭС

*Чэхія да 1996 года збіраецца ўвайсці ў Эканамічнае супольніцтва.*

Паводле ацэнак спецыялістаў, за апошні час краіна дабілася добрых вынікаў, пасляхова стварыла ўсе ўмовы для пераходу да рыначнай эканомікі. У краіне нізкая інфляцыя, а колькасць беспрацоўных складае 3,2 працэнта.

### КАРЫБСКАЯ СТЫХІЯ

*Моцны шторм ахапіў Карыбскі басейн.*
Больш за астатнія пацярпела Гаіці. Водная стыхія "праглынула" дамы, загінула каля 100 чалавек. Урад краіны звярнуўся па дапамогу. На Кубе заліта вадой каля 12 тысяч кватэр.

### ПЕРШЫЯ ЛАСТАЎКІ

*Пасля падпісанага ў канцы мінулага месяца мірнага дагавора паміж Ізраілем і Іарданіяй у Іарданію накіраваўся першы аўтобус з ізраільскімі турыстамі.*

Яго пасажыры атрымалі першыя візы на ўезд у краіну.

### ГАНЕННЕ НА "ЧУЖЫХ" ШКОЛЬНІКАЎ

*У Каліфорніі адбылася дэманстрацыя, удзельнікі якой патрабавалі забараніць усім дзецям незаконна прыбыўшых эмігрантаў наведваць школы ЗША.*

Дэманстранты патрабавалі выключэння гэтых дзяцей са школ. Аднак, згодна з апытаннем сярод спецыялістаў, якія працуюць у сферы адукацыі ЗША, яны не супраць, каб дзеці эмігрантаў вучыліся разам з амерыканскімі школьнікамі.

### АЖЫЛА ХАРАНСКАЯ ДАЛІНА

*У паўднёва–ўсходняй частцы Турцыі адкрыты самы буйны ў краіне канал.*

На святочнай цырымоніі адкрыцця, якая абышлася ў 166 тысяч даляраў, прысутнічала 1770 гасцей з розных краін. Паводле слоў турэцкага ўрада, ірыгацыя Харанскай даліны прынясе работу і хлеб 3,5 мільёна жыхароў.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

МЯСЦОВЫ ЧАС

# За спажыўцоў уступіліся ...журналісты

□ Генрых МІНІН

*Як правіла, наязджаючы ў Ашмяны, перш–наперш наведваю мясцовых калег — журналістаў. Тут і навіны пачуеш, як кажуць, з першых вуснаў, і пра самае набалелае, што турбуе сёння грамадства, пагамоніш. І вось у чарговы раз, абмяркоўваючы неяк падзеі бягучага тыдня, давялося пачуць ад аднаго журналіста катэгарычнае:"Трэба нешта рабіць".*

Быў гэта Іван Высоцкі. У мясцовай рэдакцыі піша на сельскагаспадарчую тэматыку, але дзе ж ты адмяжуешся ад іншых праблем? Таму ніхто не здзівіўся, калі менавіта ён стварыў тое, чаго не было не толькі ў раёне, але і ў вобласці.

"Так, шмат атрымліваем мы пісьмаў-скаргаў на зняважлівыя адносіны да простага чалавека,— сказаў тады Іван Высоцкі.— Канешне, можна паспачуваць пакрыўджаным, параіць звярнуцца па нейкаму канкрэтнаму адрасу. Але хто, як не мы, журналісты, ведаем, што бывае з гэткіх "хаджэнняў па пакутах". Таму і вырашылі вось стварыць нейкі афіцыйны орган, грамадскае аб'яднанне спажыўцоў, каб, у рэшце рэшт, зрушыць заскарузлы гандаль з мёртвага пункта, бо менавіта ў адрас яго найбольш скаргаў".

Задумка, як бачым, была добрая, толькі як яе ажыццявіць? Сабраўшы энтузіястаў новай справы — а гэта былі і пенсіянеры, якія найбольш пакрыўджаныя сёння, і інжынер райсельгасхарчу, і інспектар па закупках — тут абмеркавалі асноўныя напрамкі сваёй дзейнасці, склалі прыкладны статут. І пайшоў Іван Высоцкі па параду ў райвыканкам: як зарэгістравацца? А там чыноўнік адразу ў лоб:"А каму вы падпарадкоўваецеся? Дзе ў вобласці ці ў рэспубліцы гэткая арганізацыя"? — "Але ж ёсць Закон "Аб абароне правоў спажыўцоў",— тлумачыў журналіст, — які не забараняе ствараць падобныя аб'яднанні".

Адным словам, настойлівасць перамагла. Падтрымалі добрую ідэю. А калі так, то Іван Высоцкі і пячатку зрабіў, і штамп сваёй арганізацыі, а таксама афіцыйныя пасведчанні з фотакарткаю членаў Ашмянскага грамадскага аб'яднання спажыўцоў, на вонкавым боку якога значыцца: "Рэспубліка Беларусь. Спажывецкі кантроль". Адначасова надрукавалі аб'явы, змест якіх заключаўся ў наступным:"Увага! Калі ў вас канфлікт з прадаўцом або вы маеце прапановы і заўвагі наконт паляпшэння гандлёвага абслугоўвання насельніцтва, званіце па тэлефонах... Ашмянскае грамадскае аб'яднанне спажыўцоў".

Інфармацыя з'явілася ў раённай газеце, а потым на яе старонках пачалі рэгулярна выходзіць спецыяльныя выпускі "Погляд спажыўца".

За мінуўшы час колькасць членаў аб'яднання павялічылася ў чатыры разы — да 60 чалавек. Створана рада з дзевяці чалавек, якую ўзначаліў сам Іван Высоцкі. Збіраюцца яны ў канкрэтны дзень раз у месяц, абмяркоўваюць вынікі работы і вызначаюць наступныя крокі. Для аператыўнасці стварылі шэсць груп на перыферыі, па месцы жыхарства членаў аб'яднання. Сёння яны дзейнічаюць у Барунскім, Жупранскім, Каменналогскім, Гальшанскім, Граўжышскім і Мур-Ашмянскім сельсаветах. Члены аб'яднання не абмяжоўваюцца толькі праверкай гандлю. Адрасы падказваюць самі спажыўцы, чытачы газеты. Як правіла, друкуюцца іх канкрэтныя прапановы, а потым паведамляецца, што зроблена. Так, было прапанавана праверыць якасць прадукцыі на мясцовым хлебазаводзе, зрабіць навесы на аўтастанцыі, павялічыць колькасць паштовых скрынак у горадзе, арганізаваць сустрэчу спажыўцоў-пайшчыкаў райспажыўсаюза з яго кіраўніцтвам. Быў арганізаваны таксама рэйд па падрыхтоўцы да ацяпляльнага сезона гарадскіх кацельняў. А ў калгасе імя Крылова па сігналу чытачоў былі знойдзены 54 тоны неапрыходаванага збожжа.

І трэба сказаць, што эфектыўнасць работы аб'яднання дзейсная. Так, старшыня праўлення райспажыўсаюза І.Александровіч афіцыйна паведаміў, што загадчыца магазіна № 1 Г.Зіневіч за недаважку ў пакетах сухога малака была пазбаўлена прагрэсіўкі за месяц. За прыняцце тавару з аптовай базы без рахунку-фактуры такое ж пакаранне накладзена на загадчыцу магазіна "Будматэрыялы" В.Берзак і загадчыцу магазіна № 5 Л.Войтка — за захоўванне ў памяшканні магазіна асабістага шкла. Па строгай вымове атрымалі загадчыца склада ст.Ашмяны С. Дыдо і кладаўшчыца Г.Мацкойць...

Аб'яднанне звярнула ўвагу гандлёвага кіраўніцтва на парадак размеркавання тавару з аптовай базы па спажывецкіх таварыствах; на працоўную дысцыпліну прадаўца "Кулінарыі" Л.Яскель; на тое, што ў краме "Сельгасхіміі" тавар адпускаецца без чэкаў і адзнакі ў пашпарце пакупкі, што стварае недарэчнасці пры яго абмене ці вяртанні як няякаснага.

Члены аб'яднання не робяць ніякіх скідак ні камерцыйным структурам, ні іншым гандлёвым кропкам, што прапісаліся ў Ашмянах. Наводзяць парадак і на гарадскім кірмашы. Так, за парушэнні правілаў гандлю падатковай інспекцыяй была аштрафавана ўласніца крамы "Людміла" Ю.Багуцкая, недаважванне цукерак выкрыта было ў магазіне "Чараўніца" смаргонскага гандлёвага прадпрыемства.

Аднак не толькі "жучкоў" вышукваюць правяраючыя. Калі знаходзяць нешта добрае, вартае ўвагі ў гандлі, пра гэта таксама паведамляецца ў газеце. Менавіта з лепшага боку была асветлена работа дзяжурнага магазіна "Пчалінка".

У выпусках "Погляду спажыўца" друкуюцца "Правы спажыўцоў", а таксама справаздачы аб рабоце аб'яднання. У адным з чарговых выступленняў было падкрэслена, што праверана ўжо большасць магазінаў горада, амаль ва ўсіх выяўлены парушэнні правілаў гандлю, не гаворачы ўжо пра культуру абслугоўвання. Праверкі праходзяць сумесна з падатковай інспекцыяй і міліцыяй.

Пра эфектыўнасць работы аб'яднання сведчыць і той факт, што ў адрас яго самых актыўных членаў ужо ёсць пагрозы з боку сваякоў асобных прадаўцоў. Але хіба напалохаеш імі энтузіястаў?

Як я казаў, мэта аб'яднання — не проста знаходзіць недахопы і неяк спрыяць іх выпраўленню. Яны змагаюцца за канкрэтнае паляпшэнне ўсёй сферы абслугоўвання. Менавіта па гэтай прычыне рада звярнулася з прапановай да дэпутата ашмянцаў у Вярхоўным Савеце Анатоля Лябедзькі. Сутнасць яе заключаецца ў тым, што ў апошні час многа скаргаў ад грамадзян на мясцовы кааператыўны гандаль, які не можа ці не жадае задаволіць патрэбы пакупнікоў. У той час, як наезныя аўтамагазіны, напрыклад, з Воранава, Смаргоні, Маладзечна, прапануюць тое ж мяса, каўбасу ці рыбу па больш таннай цане. Дык чаму не даць "зялёнае святло" гэткай ініцыятыве, афіцыйна не адкрыць прадстаўніцтвы такіх гандлёвых фірмаў?

Пытанне абмяркоўвалася нядаўна на чарговым пасяджэнні рады грамадскага аб'яднання спажыўцоў. Вырашана было знайсці памяшканне для наезных гандляроў. Трэба думаць, што ініцыятыва атрымае падтрымку, як і мара членаў аб'яднання мець свой рахунак у банку. У цэлым, мяркую, вопыт ашмянцаў заслугоўвае пашырэння.

Васілю Лявонцьевічу Марозу з калгаса імя Чкалава Кобрынскага раёна — 77 гадоў, але ён бадзёры, рухавы, з усёй гаспадаркай спраўляецца сам. А калі свабодны ад спраў, бярэцца майстраваць маслабойкі, бочачкі для захоўвання сала, дзежкі для закваскі цеста. Яго рукі ўмеюць рабіць шмат. Часта прыходзяць аднавяскоўцы са сваімі просьбамі да вясковага ўмельца, і нікому ён не адмаўляе.

Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.

Такім музеем магла б ганарыцца любая школа. Гэты ж створаны ў Мазыры, у СШ № 10. Паколькі ў баях за горад галоўным чынам прымала ўдзел 55-я Мазырская Чырванасцяжная стралковая дывізія, вырашана было стварыць музей гэтага падраздзялення. А пасля - і музей Вялікай Айчыннай вайны.

Зараз ён носіць званне "народны". Тут налічваецца 750 экспанатаў асноўнага і 800- дапаможнага фондаў. На базе музея працуе гурток экскурсаводаў, і цяпер самі вучні СШ № 10 праводзяць экскурсіі па васьмі тэматычных напрамках.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ.

## БІЗНЕС-КЛАС

### "ВАНДРОЎНІК–94"

Пад такой назвай з 14 па 18 лістапада ў сталічным выставачным комплексе "Мінскэкспа" праходзіць міжнародная спецыялізаваная выстава. Яе арганізатарамі выступілі дырэкцыя комплекса, Міністэрства знешнеэканамічных сувязей Рэспублікі Беларусь, Беларуская асацыяцыя турызму, Спартыўны клуб МА, АТ "Спадарожнік", АТ "Белінтурыст", рэспубліканская турыстычна-экскурсійная фірма "Беларусьтурыст", Камітэт па фізкультуры і спорту нашай рэспублікі і Вышэйшая школа турызму. Экспазіцыя рыхтавалася даволі доўга, амаль год. На выставе прадстаўлены фірмы з Беларусі, Украіны, Расіі, Англіі, Францыі, Грузіі, Іспаніі, Германіі, Грэцыі, Мальты, якія спецыялізуюцца на турызме.. Асартымент выстаўленага на агляд мінчукоў даволі шырокі і разнастайны: тут і розная турыстычная амуніцыя, спецыяльнае абсталяванне, інвентар, літаратура на турыстычную тэматыку, спартыўнае адзенне, абсталяванне для гасцініц і рэстаранаў, камп'ютэрныя сеці і праграмы для турыстычных фірм.

Асаблівасцю мінскага лістападаўскага міжнароднага кірмаша з'яўляецца тое, што кожная беларуская фірма прадстаўляе адну ці некалькі замежных фірм-партнёраў.

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.

### "ЯК ДАБІЦЦА ПОСПЕХУ НА ВЫСТАЎЦЫ?"

Семінар з такой назвай пачаўся ўчора ў Беларускай політэхнічнай акадэміі. Яго арганізавала буйнейшая выставачная фірма свету "Дойчэ Мессэ АГ" (Германія) сумесна з Гандлёва-прамысловай палатай Беларусі і "Нацыянальнай эканамічнай газетай".

Удзельнікі семінара — беларускія прадпрыемствы і фірмы — знаёмяцца з сусветным вопытам арганізацыі і правядзення выставак і кірмашоў, рэкламы і маркетынга прадукцыі.

(Ул.інф.)

### ПА КАНТРАКТЫ- У МАСКВУ

Нацыянальная беларуская экспазіцыя будзе разгорнута на выставачных пляцоўках Усерасійскага выставачнага цэнтра ў Маскве. Тут з 22 па 27 лістапада пройдзе 10-ы Міжнародны асенні кірмаш аптовага гандлю "Інтэроптгандаль-94".

Эксклюзіўныя правы на арганізацыю беларускай экспазіцыі на гэтым кірмашы прадастаўлены буйнейшай у рэспубліцы выставачнай кампаніі "Экспасервіс".

БЕЛІНФАРМ.

ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

## КІРАЎНІЦТВА "ПАД ГАЛАЧКАЙ"

Прачытаў я нядаўна ў "Настаўніцкай газеце" артыкул спецыяліста аддзела адукацыі Лунінецкага райвыканкама Паўла Карпеца з прапановамі па рэарганізацыі органаў адукацыі. І вось што хачу сказаць. Я цалкам згодны з аўтарам, што нашыя аддзелы адукацыі, так бы мовіць, "перанаселены". Функцыянальныя абавязкі там таксама не адпрацаваны. Пра гэта ведаю не з чужых вуснаў — амаль шэсць гадоў працую ва ўпраўленні адукацыі.

За гэты час я перажыў тры этапы розных скарачэнняў. Цікава, але факт: да чарговага скарачэння зноў прыходзім з гэткай жа колькасцю супрацоўнікаў, што і напачатку. Таму што, скарачаючы штаты, спецыялістаў з самога ўпраўлення звычайна перакідваюць у аддзел "пры ўпраўленні". А плацяць і там, і там з аднае кішэні — дзяржаўнай.

Пры ўпраўленні сёння працуе абслуговая або пасіўная (у адносінах да школ) частка работнікаў — бухгалтары, планавікі, рамонтнікі, забеспячэнцы. Большасць з іх, вядома, гадамі не бывае ў школах і ПТВ, займаючыся складаннем розных папер і справаздач.

У выніку папярэдніх скарачэнняў "актыўная частка" ў выглядзе інспектараў навучальных устаноў зрабілася роўнай з пасіўнай. Цяпер яна будзе яшчэ меншай. Але справа не толькі ў гэтым. Ніхто з кіраўніцтва не вывучае, як працуюць спецыялісты ў школах, як яны аналізуюць розныя працэсы і складаюць сур'ёзныя дакументы.

Хачу прывесці адзін прыклад. Ёсць у мяне таварыш. Добры, сумленны, прынцыповы чалавек. Працуе ён таксама ва ўпраўленні адукацыі. Неяк днямі сустракаю яго, і вось што ён распавядае.

У жніўні пачалі плаціць педагогам за стаж, павысілі надбаўкі да ставак за працу ў школах-інтэрнатах. Аднак, як аказалася, не ўсім.

На думку майго таварыша, тут спрацаваў эфект ранейшых падыходаў да напісання дакументаў. Сядзіць, скажам, чыноўнік з Дзяржкампрацы і акуратна падстаўляе ў старыя радкі новыя лічбы. І ведаць не ведае, што нешта памянялася ў сістэме адукацыі.

Так і атрымалася з агульнаадукацыйнымі школамі-інтэрнатамі. Калі яшчэ дзейнічала саюзнае Палажэнне, яны лічыліся школамі агульнага тыпу. Але з чэрвеня 1993 года пачало працаваць беларускае Палажэнне, у якім ужо не было школ-інтэрнатаў агульнага тыпу. А былі агульнаадукацыйныя інтэрнаты для дзяцей-сірот, дзяцей з адхіленнямі ў паводзінах і дзяцей з сем'яў з неспрыяльнымі ўмовамі жыцця.

У Брэсцкай вобласці ёсць дзве школы для дзяцей-сірот і дзве — для дзяцей з адхіленнямі ў паводзінах і з няпоўных сем'яў. Аднак, калі педработнікам сіроцкіх школ-інтэрнатаў надбаўка да ставак за працу ў інтэрнатах падвоілася, дык для педагагічных работнікаў агульнаадукацыйных школ-інтэрнатаў гэткая ж надбаўка паменшылася... з 30 працэнтаў да 18. І ўсё таму, што інтэрнатаў агульнага тыпу цяпер "няма"...

Напісаў мой таварыш загад аб перайменаванні школ, але намеснік начальніка па эканоміцы і фінансах аб'явіў яго несапраўдным. Бо не вельмі жадае кіраўніцтва абцяжарваць сябе напісаннем лістоў у Міністэрства адукацыі і Дзяржкампрацы.

Так вось і жывём напярэдадні рэарганізацыі, працягваючы кіраваць па-ранейшаму. Каб такога не адбывалася ў будучым, трэба вельмі ўдумліва падысці да гэтага. А праводзіць рэарганізацыю "дзеля галачкі" проста няма сэнсу.

Павел БЕНЗЯРУК, педагог.

ЗВАНОК НА ЎРОК

## Запрасілі на свята

*Што і казаць, жыццё наша стала зараз вельмі ўжо будзённым. Мая супрацоўніца расказала, што бацькоўскі сход адмяніў у дзіцячым садку дні нараджэнняў, бо гэта выклікае іншы раз зайздрасць у дзяцей да тых, хто жыве багацей. Ды і мы, дарослыя, так рэдка ствараем святочны настрой у сваёй хаце, у калектыве. І не толькі таму, што збяднелі нашы кашалькі. Можа збяднелі і нашы душы? Бо радасць, весялосць, свята не купіш за грошы.*

Але мяне запрасілі на свята. Свята школы. Свой першы 5-гадовы юбілей адзначыла сярэдняя школа № 190 г.Мінска. Гаспадыня свята, дырэктар школы Зоя Яфімаўна Андруховіч пачала працу ў новым мікрараёне Уручча з рамонту даху новенькай школы і ліквідацыі недаробак будаўнікоў. У той год у школу прынялі 880 вучняў, а зараз іх амаль удвая больш. Вось што я пачула ад Уладзіміра Анатольевіча Парамонава, намесніка дырэктара школы па музычна-эстэтычнаму цыклу:

— Калектыў наш вельмі вялікі, дружны і працавіты. Кожны дзень сэрца радуецца ад таго, што сустрэнеш і навучыш нечаму новаму дзяцей, убачыш знаёмыя, добрыя, цёплыя твары калег-настаўнікаў, якія ў наш цяжкі час на тую мізэрную зарплату добрасумленна робяць сваю справу.

Пад час святочнага канцэрта калектыву настаўнікаў школы, прагучала выступленне ансамбля беларускай музыкі і песні "Дабрадзея", лаўрэата гарадскога фестывалю народнай творчасці "Спадчына".

— Я ўпэўнены , — сказаў намеснік дырэктара школы па музычна-эстэтычных дысцыплінах Міхаіл Пятровіч Залатаронак, — калі будуць на святах у школе спяваць настаўнікі, то яны гэтую справу перададуць і вучням.

• Настаўніцкі аркестр дапамагае пад час выступлення дзіцячага фальклорнага калектыву "Забава", які, дарэчы, таксама лаўрэат гарадскога фестывалю. Трэба сказаць, што гэта незвычайнае відовішча. Таленавіты кіраўнік Алена Іванаўна Ліпніцкая стварыла сапраўдны букет каляндарна-абрадавых святаў: "Каляды", "Гуканне вясны", "Купалле", "Дажынкі, "Масленіца".

Сярэдняя школа "№ 190 адна з першых, і пакуль ці не адзіная сярод трох мікрараёнаў Уручча, поўнасцю перайшла на беларускамоўнае навучанне. 1300 вучняў вывучаюць прадметы музычна-эстэтычнага цыкла. Для вучняў 1—9 класаў абавязковым з'яўляецца слуханне музыкі, авалоданне нотнай граматай. Ёсць харавы клас, танцы, заняткі па выяўленчаму мастацтву і мастацкая праца. Спецыяльнымі дысцыплінамі ў гэтым годзе ў школе ахоплена больш як 400 вучняў. Калектывамі мастацкай самадзейнасці вучняў і настаўнікаў штогод ладзяцца канцэрты для бацькоў, ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і працы, для інвалідаў, навучэнцаў школ, работнікаў саўгаса "Пятровічы", воінаў Узброеных Сіл. Лепшыя калектывы не раз выступалі на тэлебачанні. Група вучняў прымала ўдзел у тэлегульні "Папараць-кветка". Яны сталі пераможцамі і атрымалі пуцёўку ў лагер "Зубраня".

У чытачоў можа скласціся ўражанне, што ў сярэдняй школе № 190 пануе круглы год суцэльнае свята, весялосць і музыка. Хацелася б, каб гэта было так. Але ж праблем хапае і тут: перапоўненасць класаў і школы, недахоп нагляднай і метадычнай літаратуры. Школе з музычна-эстэтычным ухілам не адпавядае састарэлая стандартная планіроўка будынка. Рацыянальна было б збудаваць сумесна з суседняй матэматычнай школай, якая размешчана побач, прыбудову-перамычку, дзе б размясціліся спартзалы, басейн, пакоі для заняткаў музыкай ды выяўленчым мастацтвам. Але для гэтага патрэбны сродкі. І немалыя.

Цяпер модна мець спонсараў. Знайшліся камерцыйныя структуры, якія дапамаглі купіць школе касцюмы для танцавальнага ансамбля, музычныя інструменты. Аднак нельга спадзявацца толькі на іх.

Не задавальняе і зарплата педагогаў. На такія грошы мужчыне-настаўніку, напрыклад, нерэальна пракарміць сям'ю. На заўвагу аб павышэнні ўдвая іх заробку, настаўнікі адказалі, што гэтыя грошы, якія яны атрымаюць у сярэдзіне снежня, з'есць інфляцыя. Як быў настаўнік на мяжы галоты, так і застанецца.

Вельмі дакладна падвёў вынікі нашай размовы М.П.Залатаронак:

— Пакуль дзяржава не зразумее, што бацькі, якія нарадзілі дзіця, селянін, які гэта дзіця пракорміць і настаўнік, што вывучыць гэта дзіця не будуць забяспечаны — будучыні не будзе.

Але пакуль настаўнікі з мізэрнай зарплатай як на свята будуць ісці на працу, свята гэтае будзе і ў школе, і ў дзіцячых душах. У душах тых, хто сее разумнае, добрае, вечнае, яшчэ жыве вера. Хай жа не згасне яе агеньчык.

Галіна СУША.

ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

СКРЫЖАВАННЕ

## Донарства ці гандаль крывёю?

□ Сяргей ГРЫБ

*Шчасце, безумоўна, не ў грошах. А ў іх колькасці. Гэтую няхітрую ісціну за постперабудовачны час мы засвоілі цвёрда. Таму кожны зарабляе на жыццё як хоча. Альбо як можа. Хтосьці па–ранейшаму стаіць ля станка. Хтосьці — ля пункта па абмену валют. Але з'явілася апошнім часам у нас яшчэ адна катэгорыя грамадзян, якая "робіць бізнес" на крыві. Прычым на ўласнай.*

У большасці з нас назва "Навінкі" перш за ўсё асацыіруецца з псіхіятрычнай бальніцай. Таму перапоўненыя аўтобусы, якія кожную раніцу ідуць у напрамку гэтага мікрараёна, крыху здзіўляюць. Зрэшты, нічога незвычайнага тут няма — едуць не ў "вар'ятню". А на Рэспубліканскую станцыю пералівання крыві. Дакладней, у донарскае аддзяленне.

Але папулярнасцю пункт прыёму донарскай крыві карыстаўся далёка не заўсёды, і яшчэ некалькі месяцаў таму тут было адноснае зацішша. Пакуль не была перагледжана сістэма льгот, што прадастаўляла донарам дзяржава. Раней, паводле КЗаПа, за здадзеную кроў даваліся два выхадныя дні "з захаваннем сярэдняга заробку за кошт медыцынскай установы". Апошняя фармулёўка адразу нарадзіла сапраўдны ланцужок нязручнасцей. Уявім сабе: здае чалавек кроў і атрымлівае аб гэтым даведку. З гэтай даведкай ён ідзе на сваё прадпрыемства, дзе яму налічваюць грошы і зноў даюць паперку, з якой трэба ехаць на станцыю пералівання крыві, каб, у рэшце рэшт, атрымаць належнае. Зразумела, што гэты "папяровы футбол" вытрымлівалі нямногія. Асабліва, калі ўлічыць такі фактар, як наша інфляцыя, якая за час беганіны паміж установамі паспявала "з'ядаць ільвіную частку грошай. Словам, вынік такой бязглуздай завядзёнкі быў лагічным: донарскай крыві катастрафічна не хапала.

Усё змянілася пасля 18 ліпеня гэтага года, калі была прынята адмысловая ўрадавая пастанова аб выплаце ўсім без выключэння донарам узнагароды ў памеры адной мінімальнай зарплаты. Гэта азначала тое, што грошы донару павінны выплачвацца на месцы і без лішніх даведак. Скажам шчыра, такія ўмовы спадабаліся. І нядзіўна: здае сёння чалавек "норму" (425—450 мл) крыві альбо плазмы – і тут жа атрымлівае 20 тысяч рублёў. А праз два тыдні плазму можна здаваць ізноў. І праз два месяцы — кроў. Вось вам, калі хочаце, і крыніца папаўнення ўласнага бюджэту.

Гэта зразумела, і таму колькасць донараў за апошнія месяцы павялічылася аж у 3—4 разы. Што само па сабе вельмі някепска: з аднаго боку дзяржава атрымала ўсё ж неабходную донарскую кроў, а з другога — людзям далі магчымасць крыху падзарабіць. Атрымалася амаль класіка: усе задаволены, усе смяюцца... Толькі не будзем спяшацца пляскаць у далоні. Таму што неяк мімаволі паўстае пытанне: а ну як праз пару тыдняў рэзка ўпадзе рэальны кошт "мінімалкі", ці не знікнуць донары зноў?

Пытанне, на жаль, небеспадстаўнае. Бо, як гэта ні крыўдна, вярэдзіць думка, што донарская кроў у наш час ужо не ахвяруецца, як гэта было раней. І нават не "здаецца". А перш-наперш менавіта прадаецца. Як прадаецца і купляецца ў наш час літаральна ўсё: ад шкарпэтак да жанчын. "Эпоха меркантылізму", — рэзюміруе нехта. І паскардзіцца на жыццё.

Безумоўна, жыццё ва ўсіх нас нялёгкае. Таму не падымаецца рука кінуць камень у бабулю-пенсіянерку, якая прыйшла на донарскі пункт сёння, каб заўтра на яе стале быў хлеб. Але як у той жа час адносіцца да трыццацігадовых дзецюкоў, якія (калі меркаваць па размовах у чэргах) прыходзяць сюды, каб увечары купіць дзве-тры пляшкі гарэлкі? Зноў знайсці апраўданне, што ўсе мы ў гэтай краіне жабракі? А з жабрака, маўляў, што возьмеш... Але, на жаль, такім чынам выпрацоўваецца пэўная псіхалогія — псіхалогія бездапаможнага — утрымацца. Нехта прыйдзе, штосьці зробіць. А калі не — дык усім добра вядома, хто перш за ўсё павінен дапамагчы тапельцу. Бяда толькі, што ў ролі "тапельца" тут можа апынуцца кожны з нас.

Прашу зразумець правільна: гэта не наіўнае прызнанне. Не чарговы маралізатарскі енк. Гэта канстатацыя таго, што сёння грамадства (а за ім прадпрыемствы, арганізацыі, установы, прафсаюзы) павярнулася да донарскай праблемы спіной, спіхнуўшы яе вырашэнне на дзяржаву. Апошняя што змагла, тое і зрабіла. Але праблема знікла часова. Бо грошы — рэч хітрая: сёння яны пакуль ёсць. А заўтра? Тым больш у нашай "краіне цудаў".

Таму адзінае выйсце — побач з матэрыяльнай узнагародай донараў, як гэта ні банальна, ужываць заахвочванне маральнае. З гэтай нагоды, трэба меркаваць, цікавым будзе адно маленькае здарэнне, пра якое распавёў галоўурач Адзінага донарскага цэнтра РСПК Валерый Сямёнавіч Бандарэнка. Дык вось, неяк пад час адной са сваіх камандзіровак на Захад, на пункце прыёму донарскай крыві ён убачыў бабульку гадоў пад 60 і вырашыў даведацца, што прывяло яе сюды. Адказ уразіў: "Я хачу дапамагчы свайму грамадству, але не маю грошай. І я вырашыла здаць кроў...". Эпізод, згадзіцеся, красамоўны. І для нашага ўяўлення амаль неверагодны.

Але хваробы, траўмы і аперацыі былі, ёсць і будуць. Ва ўсе часы і пры любой уладзе. А кроў нічым не заменіш. Таму і донары будуць патрэбны заўсёды.

Але патрэбна прапаганда донарства не як сродку зарабіць грошы (хаця і яны, вядома, не павінны адыходзіць на задні план), але і як свядомая ахвяра свайму блізкаму, сваёй дзяржаве. Інакш кроў стане проста "таварам". Але ў эканоміцы попыт не заўсёды нараджае прапановы. Утвараецца дэфіцыт. Толькі вось як потым тлумачыць яго хворым? Дэфіцытам свядомасці?

ЗДАРЭННІ І КУР'ЁЗЫ

## ВОСЬ ДЫК "СЛУЖЫВЫ"

*Трагічнымі сталі дзень і ноч святкавання расійскага Дня міліцыі для некаторых людзей у форме.*

Інспектар крымінальнага вышуку Брэсцкага аддзела ўнутраных спраў на транспарце гасцяваў у знаёмай. Пасварыліся. Спрабуючы нешта даказаць, сам сабе нанёс удар нажом у сэрца. Цяпер урачы змагаюцца за яго жыццё.

* * *

А віцебскага хлопца ўжо не выратуеш. Як мае быць выпіўшы разам са стралком ваенізаванай аховы лакаматыўнага дэпо, ён папрасіў "пагуляць" з пісталетам. Выпадкова націснуў на курок. Куля трапіла ў галаву. Так і не апрытомнеўшы, хлопец памёр у бальніцы.

БЕЛІНФАРМ.

## РАК – АМАТАР ВЫПІЦЬ

*Жыхар Маладзечна К. паехаў з сябрамі за горад рыбачыць. Прыехаўшы на Вілію, яны паставілі пад бераг ракі бутэльку гарэлкі, каб ахаладзілася. А калі вырашылі паабедаць, бутэлькі на месцы не аказалася.*

Раптам рыбакі ўбачылі, што яна, поўная, плыве па рацэ. Не адразу заўважылі, што бутэльку, абхапіўшы клешнямі, буксіруе вялікі рак. Адзін з рыбакоў выламаў галінку і паспрабаваў падчапіць бутэльку, каб выхапіць яе з вады. Але рак выпусціў сваю здабычу, і яна патанула.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

## БОМЖ З ПІСТАЛЕТАМ

*Здрыгануўся майстар па рамонту тэлерадыёапаратуры з пасёлка Лапічы Асіповіцкага раёна. Ды і што заставалася рабіць, калі невядомы, уваходзячы ў незачыненыя дзверы, прад'явіў... пісталет.*

Прыйшлося развітацца з відэамагнітафонам. На шчасце, дзякуючы мясцовым супрацоўнікам міліцыі, не надоўга. Яны затрымалі і абяззброілі злачынцу. Ім аказаўся бомж, які зрабіў малакаліберны пісталет і пачаў рабаваць.

БЕЛІНФАРМ.

## ГАСЦІНІЦА БЕЗ ГАСЦЕЙ

*У Бешанковічах у свой час была пабудавана цудоўная чатырохпавярховая гасцініца, разлічаная на шэсцьдзесят гасцей. Толькі апошнім часам гасцюе тут адна машкара, якая выселіла з чацвёртага паверха людзей. Працякае дах, псуюцца сцены — разбураецца яшчэ новы будынак.*

Уся бяда ў тым, што гасцініца тут стала нерэнтабельнай, дае вялікія страты. Вось і няма за што зрабіць рамонт.

Уладзімір МІХНО.

## РАГУЛЯ З ДОБРАЙ ПАМЯЦЦЮ

*Не ўдалася спроба "абагуліць" карову, якая належала жыхарцы Маладзечна.*

Дзесяць дзён шукала жанчына карову, пакуль не знайшла яе ў калгасным статку з кляймом на вуху. У адказ на скаргу пастух прапанаваў паклікаць жывёліну — калі адклікнецца, значыцца, можна забраць. На шчасце, рагуля яшчэ не паспела забыць салодкае жыццё ў гаспадыні і ахвотна пайшла за ёю.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

## НЕ РАБІЦЕ, ДЗЕЎКІ, "КРЫМІНАЛЬНЫХ АБОРТАЎ"!

*Якіх толькі дыягназаў сёння не пачуеш! Сёлета ў Баранавічах з'явіліся яшчэ і "крымінальныя аборты". Апошні смяротны выпадак зусім нядаўні — у гінекалагічным аддзяленні раддома памерла 28-гадовая Р.*

Што прывяло яе да штучнага прарывання цяжарнасці, наўрад ці ўдасца даведацца, бо жанчына паступіла ў бальніцу з дому ўжо ў непрытомным стане.

Міхась МАЛІНОЎСКІ.

МОВА ЗЯМЛІ

# СОЖ — НЯРЭЯ

***Нават у сучаснай спецыяльнай даведачнай літаратуры няма звестак аб тым, што рака Сож у мінулым мела паралельнае найменне — Нярэя. А, між тым, аб гэтым дае падставы меркаваць старадаўняя карта (прыводзім яе назву ў лацінскім варыянце, арыгінале) "Taurica Chersonesus 1590 a. per.G.Mercatorem", на якой Сож абазначаны як Nereia flumen, г.зн. "цячэнне, рака Нярэя".***

Гэтае ж абазначэнне ракі ёсць і на карце Меркатара 1643 года. Думаецца, у адзначаных дакументах (карты канца XVI — першай паловы XVII стагоддзяў сапраўды сталі гістарычнымі дакументамі) няма памылкі, і назва Нярэя з'яўлялася рэальным фактам у Верхнім Падняпроўі яшчэ чатыры стагоддзі назад. На наш погляд, так зваўся калі не ўвесь Сож, то нейкі яго значны ўчастак, што і з'явілася для фламандскага картографа Меркатара падставай для адпаведнага абазначэння на карце. Не выключана і тое, што картограф кіраваўся традыцыяй, якая з'явілася яшчэ да антычных часоў. У любым выпадку назва Нярэя патрабуе тлумачэння.

Існаванне паралельных найменняў у адносінах да аднаго аб'екта можа быць звязана з наяўнасцю розных этна-культурных і моўных традыцый у пэўным рэгіёне. У Пасожжы не было суцэльнага інда-іранскага, угра-фінскага і балцкага насельніцтва; этнамоўная сітуацыя вызначалася сімбіёзам (суіснаваннем і ўзаемавыгадным супрацоўніцтвам) асобных груп адзначаных этнасаў.

На рубяжы старой і новых эр у Пасожжа пранікаюць "ватагі" славянскіх перасяленцаў, якія перамяшчаліся галоўным чынам з паўднёвага захаду. Кожная з этнічных груповак займала сваю экалагічную нішу, таму не перашкаджала суседзям, больш таго, была ў іх зацікаўлена.

У кантактных зонах узнікалі, "назапашваліся" і пашыраліся адсюль на астатнюю тэрыторыю не толькі агульныя культурныя, але і моўныя элементы, у прыватнасці, тэрміны для абазначэння рэчак, ручаёў, балот, узвышшаў, нізін, лясоў, іншых геаграфічных рэалій. Назва Сож таксама "нарадзілася" ў кантактнай зоне. Невыпадкова, усе спробы растлумачыць гэтую назву абмяжоўваюцца якраз "балцкай", "фінскай", "інда-іранскай" і "славянскай" гіпотэзамі.

Згодна з "балцкай" версіяй, назва Сож мае той жа корань, што і прускае слова "сугэ" — "дождж". "Фінская" версія прапаноўвае супастаўленне назвы Сож з фінскім словам "сусі" — "воўк". Прыхільнікі "інда-іранскай" версіі ўказваюць на старажытнаіндыйскае слова "сундхаці" — "чысты" (Сож — Сожа — з першаснага Сьдйа).

Найменне Нярэя таксама адлюстроўвае культурны сімбіёз шматлікіх і разнастайных этнічных груп. У гэтай назве як быццам можна бачыць адлюстраванне балцкага геаграфічнага тэрміна "нерия" — "вузкая доўгая пясчаная водмель уздоўж берага" (такое слова існуе ў сучасных літоўскіх і латышскіх мовах). Аднак наўрад ці назву Нярэя безагаворачна можна лічыць балтызмам, паколькі, напрыклад, у мансійскай мове (угорская мова) існуе слова "нёр" — "гара, узгорак", у мове комі "норыс", "нэрис", "норис" — "узвышша", "пагорак" (дарэчы, Нёр — гэта найменне Уральскага хрыбта). Суаднесенасць тэрмінаў "нерия" і "нёр", "нэріс" відавочная, і ў ёй мы бачым "след" поўнай таямніц эпохі старажытных этнічных і моўных сувязей, калі і "нарадзіліся" назвы Сож і Нярэя. Між іншым, калі прыняць нагаданае тлумачэнне назвы Нярэя і лічыць, што Сож — гэта славянскае абазначэнне, то абодва найменні адной ракі можна лічыць у пэўным сэнсе "сінонімамі".

Не выключана, што назву Нярэя трэба разглядаць зусім у іншым гістарычным кантэксце. Сапраўды, ці няма сувязі паміж назвай Нярэя, з аднаго боку, і найменнямі Нараў (правы прыток Заходняга Буга), Наруце (рака ў Літве), Нарач (Славутае беларускае возера), Нара-Фамінск (горад у Маскоўскай вобласці на рэчцы Нара, левым прытоку Акі)?.. Корань нар-, нер-, няр-, нор-, нёр- у складзе назваў водных аб'ектаў вядомы ў самых розных краінах. Даследчыкі лічаць, што універсальным значэннем найстаражытнейшай асновы нар- і яе варыянтаў на вялікіх еўразійскіх прасторах з'яўляецца значэнне "вада".

У армян у старажытнасці была вядома багіня Нар, уладарка вады, дажджу, рэк, мора, крыніц. Падобная багіня існавала ў старажытных хетаў і хурытаў. У старажытных грэкаў марскі бог меў імя Нярэй, а яго 50 дачок называліся Нерэідамі. У дунайска-балканскім рэгіёне, у якім з даўніх часоў сінтэзаваліся культурныя павевы і ўплыў з Блізкага Усходу, Малой Азіі, Міжземнамор'я, багіня Нарэя, з аднаго боку, лічылася багіняй падземнага свету, вады, а з другога — сімвалізавала жыццёвую сілу, моц, урадлівасць.

Нельга не звярнуць увагі і на тое, што назва Нярэя ("Нярэія") уваходзіць у рад рачных імёнаў на -ія, -ыя (Турыя, Вілія, Вербія, Лунія, Жыція, Чартарыя і інш.), якія ўтвараюць арэал, арыентаваны ў бок прыднястроўскай і карпата-дунайскай зоны. Можна меркаваць, што менавіта адсюль, са старажытнай зямлі іліры йцаў і фракійцаў, прынеслі назву Нярэя ў Пасожжа, а разам з ёй — і ўвесь комплекс міфалагічных уяўленняў пра багіню Нарэю славянскія перасяленцы, якія рухаліся на поўнач і паўночны ўсход у апошнія стагоддзі старой і першыя стагоддзі новай эры. У новым этнічным і моўным асяроддзі продкі першых славянскіх мігрантаў часткова пераафармілі свой жыццёвы ўклад і пэўныя элементы культуры. Відаць, таму і назва Нярэя ў адносінах да вялікай і жыццёва важнай ракі страціла сваю актуальнасць, паступова саступіла месца іншаму, не менш старажытнаму найменню Сож.

Аляксандр РОГАЛЕЎ,
кандыдат філалагічных навук.

СПАДЧЫНА

У старадаўняй Оршы адраджаецца славуты Куцеінскі Богаяўленскі манастыр. Яго гісторыя бярэ вытокі ў 1620 годзе, калі аршанцы атрымалі ад патрыярха Іерусалімскага Феафана, які ў той час знаходзіўся ў Кіеве, грамату на заснаванне праваслаўнага культавага збудавання. І вось у 1623 годзе пад Оршай пачалося будаўніцтва мужчынскага Богаяўленскага манастыра. Пазней ён стаў вядомы як Куцеінская Лаўра. Цяпер тут заканчваюцца рэстаўрацыйныя работы ў Святадухаўскай царкве — помніку архітэктуры беларускага барока.

Фота Аляксандра ХІТРОВА,
БЕЛІНФАРМ.



АДАМ І ЕВА

# Я буду чакаць ...

□ Наталля СТРАЛКОВА

Ён пайшоў у тым, што заўсёды апранаў, калі ездзіў на работу. Збег, як могуць збягаць толькі мужчыны ад абрыдлага — далей няма куды — сямейнага жыцця: нават славутую зубную шчотку і тую не ўзяў. Пад канапай засталіся пакаёвыя тапачкі, у шафах — касцюмы, курткі, плашчы, шалікі, гальштукі, абутак, — гардэроб, які Лена так старанна падбірала ў замежных вандроўках.

Спачатку яна не спалохалася. За дзесяць год сямейнага жыцця здаралася і не такое, асабліва ў апошні час. Віця мог выйсці з дому, каб выбіць пыл з дывана, і знікнуць разам з дыванам і выбівачкай дні на тры. У першы вечар, калі такое здарылася, яна абзваніла ўсе бальніцы і аддзяленні міліцыі. Раніцай панесла ў свой родны РАУС фотакартку мужа і заяву. Але стомлены і, як ёй здалося, абыякавы да ўсяго дзяжурны міліцыянер супакоіў: рана хвалюецеся, нікуды не дзенецца ваш муж, у крайнім выпадку прыходзьце праз дзесяць дзён, пачнём шукаць. Праблема вырашылася сама сабой — праз два дні Віця вярнуўся, быццам нічога не здарылася, у тапачках, з дываном цераз плячо, маўклівы, сумны і, як ёй здалося, вінаваты. Лена ўчыніла грандыёзны скандал. Магчыма, ёй трэба было паводзіць сябе не так: не крычаць на ўсю кватэру, каб чулі суседзі, абразлівыя словы, не папракаць за няўдзячнасць (я цябе кармлю, апранаю, а за тваю зарплату толькі і купіш, што палавічок для ног!), не выпытваць імя і прозвішча "шлюхі", пагражаючы зачыніць "на ключ" гараж з машынай, не нагадваць у чарговы раз (ну хто за язык цягнуў?) пра яго рабоча-сялянскае паходжанне... Усё трэба было рабіць не так.

Ну хто перашкаджаў спакойна пагаварыць, выслухаць? Гэта цяпер яна заднім розумам моцная. А тады, пасля дзвюх бяссонных начэй і бясконцых малітваў: "Толькі б жывы застаўся!", стрымацца не здолела, не захацела.

Віця ніколі не быў тым прынцам, пра якога мараць у юнацтве ўсе дзяўчаты. Не дарыў кветак, не купляў цукерак і шакаладак і толькі зрэдку вадзіў у кіно. Мама, калі Лена ў першы раз прывяла яго дадому, моршчылася, застаючыся з дачкой сам-насам: "Першую палову сумеснага жыцця табе прыйдзецца вучыць яго добрым манерам". Як бы ў пацвярджэнне гэтых слоў Віця браў рукой скрылёчкі "белавежскай" з агульнай талеркі і гучна размешваў у шклянцы цукар. Неўпапад адказваў на пытанні, а пад канец вечара папрасіў у будучай цешчы пераключыць на футбол нейкую інтэлектуальную, але вельмі сумную перадачу. Тым не менш, з ім было лёгка і проста. Ён мала гаварыў і нічога не абяцаў, але ўсё, што ад яго патрабавалася, выконваў бездакорна. Стаўшы частым госцем у іх кватэры, прапаноўваў усялякія "паслугі" бацькам, і яны, у рэшце рэшт, змянілі гнеў на ласку, пачалі нагружаць патэнцыяльнага зяця просьбамі і даручэннямі. Часта, калі Лены дома не было, Віця браў у яе бацькоў вялізную сумку, грошы, спіс пакупак і шыбаваў у магазіны. Па выходных гадзінамі не вылазіў з "цесцевага" гаража, дапамагаў мыць машыну ці проста выконваў дробязную работу.

Адзін раз у цёмным пад'ездзе Лену прыціснуў да сцяны падпіўшы суседскі хлопец, яна ледзь выратавалася, а калі прыйшоў Віця, усё расказала яму. Проста так, каб лягчэй стала... Недзе праз тыдзень выпадкова сустрэлася на вуліцы з гора-гвалтаўніком — той паспяшаўся адвярнуцца і схаваць твар у каўнер, але Лена паспела заўважыць пад вачамі сіняватага колеру адмеціны.

...Да вяселля яшчэ многа чаго было. І самае галоўнае — яе цяжарнасць. Лена хадзіла бледная і няшчасная. Яе ванітавала зранку і ўвечары, так што ад мамы нічога не ўдалося скрыць. На сямейным савеце бацькі вырашылі: раджаць дачцэ яшчэ рана (хоць ёй споўнілася ўжо дзевятнаццаць), спачатку трэба інстытут скончыць, матэрыяльную базу забяспечыць, ды і для сябе пажыць. А дзеці — яны яшчэ будуць, ці доўга ўмеючы? Віцю вырашылі дарэмна не турбаваць і ў курс спраў не ўводзіць. Якраз было лета, ён паехаў у будатрад, каб зарабіць грошы на вяселле. Усё складвалася выдатна.

Аборт рабіла маміна знаёмая, але, як гэта часам здараецца, ці то перастаралася, ці то, наадварот, занадта ўпэўненая была ў сваёй эрудыцыі — праз некалькі дзён урачы "хуткай дапамогі" даставілі Лену ў звычайную клініку і звычайны доктар (якога яна і па сённяшні дзень віншуе з усімі святамі) вяртаў яе з таго свету. А пазней доўга размаўляў у кабінеце з мамай, якая прыехала забіраць дачку. Лена ведала, пра што. У яе засталося вельмі мала шанцаў зацяжарыць, яшчэ менш — нарадзіць.

Тады яна старалася пра гэта не думаць. "Як-небудзь абыдзецца, ты яшчэ маладая, дастанем табе пуцёўку ў санаторый, падлечышся, адпачнеш...", — супакойвала мама. І да Віці, калі прыехаў, пачала ставіцца зусім па-іншаму. Клікала яго не інакш як памяншальна-ласкальным імем, выпякала да прыходу яблычныя пірагі і іншыя прысмакі і, нібыта жартам, прыспешвала з вяселлем. Яе ўжо не палохалі ні адзіны "зяцеў" касцюм на ўсе выпадкі жыцця, ні адсутнасць у яго бацькоў грошай на пасаг, ні тым больш "пралетарскія" манеры будучых сваякоў. (Віця так і не запомніў, што трэба браць відэльцам, што рэзаць нажом, а што есці ўвогуле без дапамогі прыбораў).

Шлюбны касцюм жаніху (каб не сорамна было перад гасцямі) куплялі яе бацькі. Яго ўласных грошай хапіла на заручальныя пярсцёнкі і частковую аплату вясельнай закускі. "Ён будзе ў цябе пад абцасам, толькі разумна сябе паводзь", — настаўляла мама.

— І пайшоў жа неяк не па-людску, употайкі, нічога не сказаўшы. Быццам гэтых дзесяці год не існавала. Ці нельга было як чалавеку растлумачыць прычыну?

У гэтым месцы Лена раптоўна прыпыняецца і апускае вочы. Навошта шукаць прычыну, калі яна ляжыць на паверхні?.. У пакоі, дзе мы п'ём каву і дзе пад канапай усё яшчэ чакаюць гаспадара мяккія хатнія тапачкі, не павярнуцца ад шматлікіх, запакаваных і распакаваных, пастаўленых адна на адну кардонных скрынак. Паліцы прагінаюцца пад цяжарам відэакасет, выстаўленых роўнымі радамі... За празрыстым шклом паблісківаюць залацістымі надпісамі тоўсценькія рознакаляровыя тамы ўсемагчымых збораў твораў. Пухнатая Пупсі — былая любіміца Віці — грэецца на пуфіку ў кутку велізарнай канапы. Ці верагодна, што нехта здолеў збегчы з такога ўтульнага мястэчка?

Цяпер Лена не ведае, каму ўсё гэта трэба. Дзіця так і не з'явілася на свет, хоць два разы яна ўсё ж змагла зацяжарыць. Былі праблескі надзеі, калі на шостым месяцы цяжарнасці яе дзіця спрабавалі выратаваць з дапамогай штучных родаў — не дапамагло.

Выйшаўшы з бальніцы і паставіўшы крыж на мацярынстве, Лена вырашыла паспытаць шчасця ў камерцыі і з галавой акунулася ў "бізнес-туры". Віцю, яго радню літаральна завалiла падарункамі. Муж, звычайны інжынер на прадпрыемстве, пачаў выглядаць як "хлопчык з вокладкі". Летам яна купляла дарагія пуцёўкі ў цывілізаваныя краіны, разам з Віцем ехала адпачываць. Там яе таксама кансультавалі мясцовыя свяцілы і — безвынікова. Магчыма, дапамагло б сістэматычнае лячэнне за мяжой, але ні сіл, ні грошай на яго ў Лены ўжо не хапала.

...На дзень нараджэння яна падарыла мужу шыкоўны спартыўны касцюм, гледзячы на які, госці, таксама не лыкам шытыя, прыцмоквалі ад захаплення. Ужо добра выпіўшы шампанскага, яна пачала скардзіцца сябрам, што нават за ўласныя грошы не мае магчымасці купіць асобную кватэру, бо ў мамінай трохпакаёвай "метраў" аж занадта. Нехта параіў: а вы афарміце фіктыўны развод, і адразу вырашыце праблему. Лена ўхапілася за гэту "ідэю", паклікала Віцю, які курыў на балконе са сваёй супрацоўніцай... ("На дзесяць год за яго старэйшая, разведзеная, дваіх дзяцей мае — хто б мог падумаць?"). Ён выслухаў і здзіўлена паціснуў плячыма: навошта табе асобная кватэра, хіба скрыні свае складваць? За сталом усталявалася непрыемная цішыня...

— Некалі я не вытрымала — знайшла новы нумар яго тэлефона і пазваніла. Зайдзі, кажу, забяры свае рэчы — куртку пуховую хаця б, світэры — восень ужо, холадна, хадзіць жа ў нечым трэба. Ён мне ведаеш што адказаў? "Я з зарплаты паліто куплю айчыннай вытворчасці". А мне проста ўбачыць яго хацелася, абняць, як некалі, прытуліцца... Я дадому вяртаюся — унутры ўсё калоціцца: раптам вярнуўся? Па вечарах зачыняюся ў пакоі і плачу ці атупела гляджу ў адну кропку. Чытаць не магу, "відэа" не пераношу — таму што ўсё пра Віцьку нагадвае. Калі-небудзь зрэдку набіраю нумар тэлефона, толькі каб голас яго пачуць, і кладу трубку. А здараецца, адказвае тая... жанчына. Ты б бачыла: малая, худая, тры валасіны на галаве і зубы рэдкія. Кажуць, ужо цяжарная. Ад Віці. А я паверыць не магу. Афіцыйна мы не разведзеныя, усё чакаю, што адумаецца. Як ты лічыш, дарэмна?..

КНІГАРНЯ

## ПРА КАРНЕЕВУ КРЫНІЧКУ. І НЕ ТОЛЬКІ

Даўно не гляджу на кніжныя паліцы і тым больш на сталы ў падземных пераходах з камерцыйнай пахабшчынай, чарнухай, парнухай, бо "маёй" літаратуры, якая кліча ў даль светлую і ўзбагачае духоўна, там няма. Падобная, калі можна так сказаць, "літаратура" ў лубачна-папугаечных вокладках з голымі азадкамі, дуламі пісталетаў у руках суперменаў працягвае разбэшчваць і робіць жорсткімі ўсё больш юнакоў і дзяўчат, бо, на жаль, гэтую брыдоту купляюць, бяруць прыклад з "герояў". А ў выніку перапоўненыя скурна-венерычныя дыспансеры, камеры турмаў падлеткамі, якія трапляюць туды за згвалтаванні, грабяжы, забойствы.

Аляксандр Ісаевіч Салжаніцын з болем сказаў, што, адкрыўшы "жалезную заслону", выпусцілі на тэрыторыю былога СССР брудныя рэкі, заліўшы гноем, нечыстотамі нашу зямлю. Дарэчы, ва ўсіх цывілізаваных краінах падобная "літаратура" хаваецца ад дзіцячых вачэй. Самае прыкрае, што на гэты бруд ідзе цудоўная папера, якой так не хапае на сапраўдную літаратуру, дзіцячыя класічныя кніжкі, на якіх выраслі многія пакаленні. Калі ўспомніць біблейскае "Спачатку было слова", то ахінае жах, што такое "слова" можа быць для дзіцяці першым! У выніку — духоўны вакуум.

І ўсё ж, калі-нікалі, як праменьчык святла ў цёмным "царстве" камерцыйнай "прадукцыі", з'яўляецца нешта чыстае. За апошні час малымі выдавецкімі прадпрыемствамі выпушчана некалькі цудоўных паэтычных зборнікаў. Мне трапілася невялічкая кніжачка прозы з пяшчотнай назвай "Карнеева крынічка". І як ёй толькі ўдалося прабіцца праз гэтае бруднае балота?!

Выдала "Карнееву крынічку" МП "Золак" пры ўдзеле Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь.

Аўтар — Міхась Іванавіч Шаванда— нарадзіўся ў Клімавіцкім раёне ў мястэчку з цудоўнай назвай Мілаславічы. Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут і больш як 20 гадоў працуе ляснічым Касцюковіцкага лясгаса.

Берагчы, вывучаць прыроду і вучыцца ў яе — галоўны дэвіз аўтара.

Ён мае дзіцячую душу і паюначы ўспрымае навакольны свет. Таму, мабыць, і выбраў такую высакародную прафесію. Любіць сваю радзіму і дзеліцца гэтай любоўю са сваім чытачом. Ахоўваючы мурашнікі, кожнае дрэўца, кусток, рыбу ў рэчцы, ён выратоўвае прыроду, лес, а ў выніку— лёгкія ўсёй планеты.

Уяўляю Міхася Шаванду чалавекам няўрымслівым, рамантычным, неабыякавым, захопленым і шчодрым, з прыгожай душой. Назіраючы жыццё "свайго" ляснога царства, ён, перапоўнены ўражаннямі, захацеў падзяліцца ўбачаным. Друкаваўся ў абласных газетах, рэспубліканскіх выданнях. І вось, нарэшце, кніжка! Жыва і свежа расказвае пра ўсё, і складваецца такое ўражанне, што ён усё гэта хараство бачыць першы раз. Такія людзі з неачарсцвелай душой, якія не ганяюцца за ўяўным багаццем, прывідным шчасцем, як большасць сучасных людзей, варты нашай любві, удзячнасці, павагі і захаплення.

Цікава расказвае ён і пра зайца, і пра яшчарку, лася Ласунчыка, пра тры вазы грыбоў, барсучыны гарадок. Чуе крыштальны звон бяроз, сцвярджае, што ў кожнага свой голас. І шчаслівы ён тым, што чуе той голас. Кніга можа выкарыстоўвацца ў школе для пашырэння ведаў і кругагляду.

Хочацца пажадаць Міхаілу Шаванду новых крынічна-чыстых кніг.

Валянціна СКАРЫНКІНА.

## ДЖЭКСАН АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС

*Майкл Джэксан збіраецца ў снежні наведаць Лондан, а ў наступным годзе адправіцца ў турнэ па Еўропе са сваім новым альбомам "Гісторыя".*

Да таго ж, спявак аб'явіў конкурс сярод сваіх паклоннікаў. У некалькіх газетах ён збіраецца надрукаваць пытанні да іх. Пераможцам абяцана сустрэча з "зоркай".

## ГЕРОІ МОЦАРТА – У КАСЦЮМАХ АРМАНІ

*Вядомы мадэльер-дызайнер Джорджыо Армані знайшоў яшчэ адно прымяненне свайму таленту.*

Ён збіраецца зрабіць эскізы касцюмаў для сучаснай версіі моцартаўскай оперы, прэм'ера якой адбудзецца ў студзені ў Лондане.

## УЗНАГАРОДА MTV – У ДЖОНСА

*Том Джонс атрымае галоўную ўзнагароду па выніках штогадовага конкурсу MTV.*

Сярод прызёраў будуць таксама "Ace of Base", "East 17", "Take That", "Роксет", "Аэрасміт" і іншыя. Шоу ўзнагароджванняў адбудзецца ў Берліне ў канцы месяца.

## КРОСБІ ЧАКАЕ АПЕРАЦЫІ

*Ветэрану рок-музыкі Дэвіду Кросбі будзе трансплантавана печань.*

На працягу некалькіх дзён Кросбі праходзіў медыцынскае абследаванне, і ўрачы зрабілі заключэнне, што трансплантацыя для музыканта жыццёва неабходна. Зараз ён знаходзіцца ў бальніцы, а спецыялісты шукаюць для яго донара.

## ДОМ МЕРЫЛІН ЗАХАВАЕ ПАМЯЦЬ

*Дом Мерылін Манро ў Лос-Анжэлесе быў набыты адным з кінарэжысёраў.*

Паводле яго слоў, дом адрэстаўрыруюць і ўсё ў ім будзе аднаўлена так, як было пры жыцці вялікай актрысы.

## "ПРЭЗІДЭНТ" АМАЛЬ ДАКУМЕНТАЛЬНЫ?

*Майкл Фокс збіраецца ўвайсці ў Белы Дом у ролі журналіста ў фільме "Прэзідэнт Амерыкі".*

Як зазначыў акцёр, фільм заснаваны на сапраўдных фактах з жыцця цяперашняга прэзідэнта Біла Клінтана. У ім будзе таксама здымацца і Майкл Дуглас.

## НЕ РАЗЛІЧЫЛІ ЭМОЦЫЙ

*Адзін чалавек загінуў і 20 атрымалі раненні на канцэрце групы "Аэрасміт", які праходзіў на стадыёне ў Коста-Рыцы.*

Перад самым пачаткам выступлення ўсхваляваныя паклоннікі кінуліся да сцэны. У выніку многія з іх аказаліся прыціснутымі да агароджы стадыёна.

## БАДЖО ДАПАМАГАЕ ПАЦЯРПЕЎШЫМ

*Раберто Баджо вырашыў унесці свой уклад у дапамогу пацярпеўшаму ад нядаўняй паводкі насельніцтву.*

Вядомы італьянскі футбаліст выстаўляе на аўкцыён самы дарагі трафей — "Залаты кубак", вырučаныя грошы ад якога пойдуць у Фонд дапамогі ахвярам стыхіі.

